

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№125-128 (638-641) 1 ліпеня 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500426 экз. Кошт у розніцу — 12 руб.


*Ліст з рэдакцыі*

## Можна забіць рэдактара, але нельга знішчыць "Народную газету"

Тое чорнае, як вугаль, пісьмо было напісана дрыжачай рукой. Ды і не магла яна не дрыжэць, выводзячы смяротны прыгавор галоўнаму рэдактару "Народнай газеты". Мне заставалася жыць толькі тыдзень. Столькі — усяго сем дзён — адводзіў аўтар ліста на развітанне з блізкімі, сябрамі, калегамі.

Вядома, ад такіх пасланняў скакаць, як на вяселлі, не будзеш. Але ж і паміраць ранавата. А таму, сур'ёзна ўспрыняўшы пагрозу, я гэтак жа сур'ёзна панёс далей незайздросны рэдактарскі крыж. Дарэчы, падобныя прыгаворы атрымліваў па пошце і раней, а таму разумеў: нябачны вораг пасуе перад тымі, у каго моцныя нервы і цвёрдая пазіцыя.

Я ўспомніў тое чорнае, як вугаль, пісьмо не для таго, каб паскардзіцца на нялёгкі і небяспечны рэдактарскі лёс. Радкі напісаў вось з якой нагоды. Можна расправіцца з галоўным рэдактарам (не толькі фізічна), але ўжо нікому не знішчыць "Народную газету". Газету, якую, лічу, трэба было б абавязкова стварыць, калі б першы нумар яе не з'явіўся, па волі парламента, 2 кастрычніка 1990 года.

Да якіх злосных эпітэтаў не прыбягаюць кансерватыўныя апаненты газеты — называюць яе і "няроднай" (замест "Народнай"), і бэнээфаўскай, і нацыяналістычнай. Толькі дарма сілы трацяцца! Народ, беларускі народ разумее: "Народная газета" — яго газета. З першых нумароў ён горача падтрымаў дэмакратычнае выданне, дапамагаючы яму супрацьстаяць шалёнаму ўціску з боку тагачасных лідэраў ЦК КПБ, для якіх абарона таталітарнай сістэмы азначала абарону ненасытных інтарэсаў пражэрлівай узурпатарскай партдзяржнаменклатуры. Сёння галоўнай апорай "Народнай газеты" з'яўляецеся вы, добрыя людзі Беларусі, людзі, якія хочуць жыць не ў камуністычнай казарме, а ў прасторных, светлых дамах, у якіх і дыхаецца вольна, і адчуваецца ўтульна.

Ёсць газеты, якія шукаюць свайго чытача сярод вузкага кола інтэлектуалаў, другія скіроўваюць свой позірк у бок асобных прафесіянальных аўдыторый, трэція арыентуюцца на пэўныя нацыянальныя і ўзроставыя групы... "Народная газета" служыць усяму народу і не абмяжоўвае сваю тэматычную палітру і асяроддзе чытачоў.

Сённяшні нумар — першы ў другім паўгоддзі. Перад творчым калектывам стаіць чарговае выпрабаванне — з гэтага нумара *тыраж "Народнай газеты" самы вялікі ў рэспубліцы.*

У складаных умовах праходзіла падпіска, і тое, што большасць чытачоў аддала перавагу нашаму выданню — для журналістаў не толькі вялікі гонар, але і вялікая адказнасць.

І калектыў "Народнай газеты" не баіцца адказнасці. Сваю задачу мы бачым у тым, каб разам са сваім народам будаваць незалежную дэмакратычную Беларусь. Колькі намаганняў трэба яшчэ прыкласці, каб стварыць сапраўдную, а не дэклараваную, прававую дзяржаву! Не, невыпадкова на старонках "Народнай газеты" даволі часта з'яўляецца рубрыка "Дзяржава супраць асобы". На першым месцы ў нашым грамадстве пакуль што стаіць не чалавек з яго клопатамі і інтарэсамі, а па-ранейшаму нейкі нябачны ідэалагічны монстр з яго нахабнай хцівасцю. З высокіх трыбун прыгожа гаворацца прамовы аб падтрымцы абяздоленых людзей, а ў гэты час бяздумна множыцца бюракратычны апарат, які цяжкім каменем павісае на шыі працоўнага люду. Шчыруем у прамовах наконт нейтральнага курсу маладой суверэннай Беларусі, а ў разліку на тысячу жыхароў наша армія з'яўляецца, бадай, самай масавай у свеце. Хочам, каб паліцы магазінаў ламаліся ад тавараў, а стрыножылі вытворцаў так, што ў іх адно выйсце — з тых, хто выпускае, вырошчвае, будуе, ператварыцца ў тых, хто толькі перакупляе і бессаромна нажываецца на нахабнай спекуляцыі.

Высокую адказнасць перад часам і грамадствам мы бачым і ў тым, каб як мага лепей спрыяць нацыянальнаму адраджэнню. Мы поўнасцю адкідваем ярлыкі тыпу "Газета вбивает клин в отношения людей разных наций". Гэта — дэмагогія, і выкарыстоўваецца яна тымі, хто хацеў бы, каб наша родная Беларусь называлася "северо-западным краем".

Стаўшы самай масавай газетай, "Народная" мае цвёрды намер больш глыбока і больш шырока ўздымаць хвалюючыя праблемы сучаснасці. Пры гэтым мы застаёмся вернымі свайму галоўнаму прынцыпу — на старонках газеты і надалей будзе адчувацца плюралістычны падыход да розных падзей, з'яў, гісторыі. Ніхто не мае права пазбавіць чалавека свабоды слова, ніхто не можа забараніць яму мець сваё меркаванне па тым ці іншым пытанні. Хаця, заўважу, "Народная газета" — не поле бою, не арэна для непрыстойнага звядзення рахункаў з праціўнікам. Рэдакцыя адхіляла і будзе адхіляць матэрыялы, у якіх факты падаюцца без адпаведнай праверкі, дзе аўтар імкнецца перш за ўсё абліць кагосьці памыямі. У газеты ёсць не толькі абавязкі, але і правы, і яна іх будзе выкарыстоўваць у адпаведнасці з заканадаўствам.

Мы будзем сумленныя і адказныя перад часам і сваім народам!

Мы будзем памятаць, што "Народная газета" — газета, якая імкнецца стаць выданнем еўрапейскага ўзору.

Гэта не азначае, што "Народная газета" не будзе, акрамя ўсяго, займальнай і цікавай газетай. Няма катэгорыі людзей, на якую мы не разлічвалі б. Нас, скажам, актыўна чытаюць дзелавыя людзі, а змяшчаючы рэкламу, яны ведаюць, што трапілі, як кажуць, у яблычак.

"Народная газета" разам са сваім народам будуе прававую і незалежную Беларусь!

Іосіф СЯРЭДЗІЧ,
галоўны рэдактар "Народнай газеты",
народны дэпутат Рэспублікі Беларусь.



*Мы — беларусы*



Фота Сяргея БРУШКО.

## Панарама нумара



*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Спрэчкі вакол КДБ. Барацьба за законнасць ці за ўладу?

Мікалай ГАЛКО

Не паспеў дэпутат Міхаіл Качан абвінаваціць ва ўсіх грахах сродкі масавай інфармацыі, як звыклы ход сесіі, якая ўзнавіла сваю работу ў аўторак, быў парушаны. У залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ўвайшоў прэзідэнт Польшчы Лех Валенса. І сакратар ЦК партыі камуністаў вымушаны быў саступіць трыбуну аднаму з самых знакамітых антыкамуністаў свету. Тон прамовы кіраўніка краіны-суседкі быў памяркоўным і дружалюбным. Лех Валенса заклікаў знаходзіць тое, што яднае Беларусь і Польшчу, а не раз'ядноўвае.

Гэты тэзіс не мог не знайсці падтрымкі. Пра тое, што выступленне высокага госця спадабалася, сведчыць і экспромт дэпутата Васіля Трафіменкі. Ён у "Розным" гаварыў пра жывёлагадоўчыя праблемы, а скончыў падтрымкай шырока вядомага выказвання аб кухарцы, якая павінна ўмець кіраваць дзяржавай, бо кіруюць жа былыя электрыкі.

Папрасіў слова і старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык. З першага разу просьбу не задаволілі. Станіслаў Шушкевіч у адказ на выкрыкі з месцаў: "Няхай на мітынгах выступае!" — паўшчуваў дэпутатаў: маўляў, Ганчарык прадстаўляе арганізацыю, што мае права заканадаўчай ініцыятывы. І тады другое галасаванне дало станоўчы вынік.

Запомнілася пагроза Ганчарыка прыняць адэкватныя меры, калі патрабаванні прафсаюзаў па сацыяльна-эканамічных пытаннях не будуць улічвацца.

Павел Холад успомніў пра так званую барысаўскую справу — аб парушэнні заканадаўства і нормаў маралі выканаўчымі структурамі Барысава. Разгляд яе ў аблвыканкаме, на думку дэпутата, не расставіў кропак над "і". Холад параіў Старшыні Вярхоўнага Савета больш рашуча выкарыстоўваць свае паўнамоцтвы, калі ж іх не хапае — прасіць дадатковых у дэпутатаў.

Сяргей Антончык гаварыў пра цяжкасці ва ўзаемаадносінах з прэсай. Мечыслаў Грыб прапанаваў стварыць аналітычна-інфармацыйны цэнтр для дэпутатаў. Міхаіл Жукоўскі з пафасам пытаўся, чаму прыніжаецца веліч подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне...

Адразу пасля "Рознага" па прапанове Вячаслава Кебіча Уладзіміра Заламая зацвердзілі намеснікам Старшыні Савета Міністраў па справах СНД.

Вядучы пасяджэння Вячаслаў Кузняцоў назваў наступны пункт парадку дня, але супраць яго рэзка запратэставаў Уладзімір Станкевіч. Ён настойваў, што на гэты момант самае найважнейшае — пытанне аб КДБ. Дакладней, адна, здавалася б, невялічкая акалічнасць: каму будзе падпарадкаваны Камітэт дзяржаўнай бяспекі — Вярхоўнаму Савету альбо ўраду.

Учарашняя дыскусія — не першая. Прыхільнікі падпарадкавання моцнай і добра дасведчанай службы Саўміну праяўляюць падазроную настойлівасць. Іх аргументацыя даволі цікавая: маўляў, мы кіруемся жаданнем быць святымі перад законам, а саперннікі нічога не маюць за душой, акрамя эмоцый. Прыём вядомы: калі няма сваіх доказаў, ганьбуй чужыя.

Не трэба быць вялікім палітыкам, каб убачыць, што за прыватным пытаннем аб КДБ стаіць вялікі намер узмацніць выканаўчую ўладу — чым больш сілавых ведамстваў пад яе дахам, тым менш нечаканасцей.

Абмеркаванне ўсіх "за" і "супраць" ішло нервова і тлумна. Падчас крыкі з месцаў заглушалі галасы ад мікрафонаў. Многія з саўмінаўскіх прыхільнікаў крычалі: "Хопіць балбатаць! Галасуем!"

Прагаласавалі. Але неабходнай колькасці не набралася. Альтэрнатыўная прапанова Алега Трусава аб утварэнні спецыяльнай камісіі ў Вярхоўным Савеце, якая б займалася КДБ, атрымала 45 галасоў.

Пасля перапынку група дэпутатаў зноў пайшла ў атаку на нязломлены рэдут. Тыя ж словы, тыя ж доказы. Было відаць, што валтузня надакучыла многім. І паўторнае галасаванне завяршылася "пшыкам".

Усё, што датычыць падпарадкавання КДБ, засталося паранейшаму.

Пасля гарачага раўнда пачаліся будзённыя турботы. Дэпутаты разгледзелі шэраг паправак да Закона аб прадпрыемствах.

Варта адзначыць і такую дэталь. Старшыня пастаяннай камісіі Барыс Савіцкі, выказаўшы адмоўныя адносіны да сістэмы калектыўнай бяспекі, прапанаваў перанесці пытанне аб усенародным рэферэндуме на восень.

У сераду сесія прадоўжыла работу. Але пра гэта — у наступным нумары.



*Нататкі з прэс-канферэнцыі*

## Польшча — Беларусь: без мяжы да 2000 года?

Яраслаў ШЫМАЎ

Польшча, здаецца, адна з краін, найбольш "цяжкіх" для кіравання. І не таму, што палітычнае альбо эканамічнае становішча ў польскай дзяржаве вельмі дрэннае — гэта ўжо некалькі гадоў не так. А таму, што палякі, як яны самі адзначаюць, вялікія скептыкі, адвечныя апазіцыянеры, якія да любой улады, нават самай добрай, ставяцца з пэўным недаверам. Вось і Лех Валенса, сучасны прэзідэнт Польшчы, быў у той час, калі ён кіраваў апазіцыйным прафсаюзам "Салідарнасць", кумірам многіх палякаў. Зараз жа, апынуўшыся ў прэзідэнцкім крэсле, пан Валенса сутыкаецца з крытыкай сваёй дзейнасці апазіцыйнымі коламі. Але польскі прэзідэнт не страціў аптымізму. "Я нават люблю добрую крытыку, але не крытыканства", — адзначыў Лех Валенса на выніковай прэс-канферэнцыі ў беларускім Нацыянальным прэс-цэнтры. На ёй прэзідэнт Польшчы і Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч паведамілі прадстаўнікам прэсы аб выніках візіту польскага кіраўніка ў Беларусь.

— Мы жывём у час вялікага гістарычнага пералому, — адзначыў Лех Валенса. — Але Польшча, Беларусь, Украіна і іншыя дзяржавы застаюцца на сваіх месцах і, нягледзячы на цяжкасці пераходнага перыяду, павінны супрацоўнічаць і быць добрымі суседзямі. Трэба працаваць, зрабіўшы пэўныя вывады з нашага мінулага.

Паводле слоў Станіслава Шушкевіча, перамовы ў Мінску былі паспяховымі. Падпісанне нейкіх новых дагавораў паміж Беларуссю і Польшчай праграмай візіту прэзідэнта Валенсы не прадугледжвалася. Гаворка паміж кіраўнікамі суседніх дзяржаў вялася аб выкананні ўжо існуючых польска-беларускіх пагадненняў. Не ўсе яны добра працуюць, і ў адносінах Беларусі і Польшчы, асабліва эканамічных, яшчэ хапае праблем, якія трэба вырашаць.

Для будучыні нашых краін, як лічыць Лех Валенса, вельмі важным з'яўляецца цеснае супрацоўніцтва. Гэта аксіёма. Пан Валенса нават спадзяецца, што да пачатку наступнага стагоддзя існуючая паміж Польшчай і Беларуссю мяжа стане празрыстай, а потым знікне зусім, каб даць грамадзянам нашых краін магчымасць наведваць адзін аднаго без абмежаванняў.

Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што паміж Беларуссю і Польшчай павінны існаваць рэгулярныя кантакты на розных узроўнях, у тым ліку і на вышэйшым. Таму, трэба спадзявацца, гэты візіт — не апошні ў гісторыі нашых узаемаадносін.

Часу ў кіраўнікоў Польшчы і Беларусі ў гэты раз хапіла толькі на тое, каб абмеркаваць праблемы двухбаковых адносін. Таму ні пытанне аб праекце Балтыйска-Чарнаморскага ці якога-небудзь яшчэ рэгіянальнага саюза, ні глабальныя праблемы (напрыклад, падзеі вакол Ірака) Станіслаў Шушкевіч і Лех Валенса не разглядалі. Але, адказваючы на пытанне аб адносінах Польшчы да амерыканскай ракетнай атакі Багдада, прэзідэнт Валенса адзначыў: "Было б вельмі сумна, калі б нейкая краіна пачала адчуваць сябе сусветным жандарам".

Не засталося незакранутым на прэс-канферэнцыі і "гарачае" для Беларусі пытанне аб калектыўнай бяспецы. Станіслаў Шушкевіч у чарговы раз заявіў, што ён імкнецца да нейтралітэту Беларусі, таму што праз нашу краіну праходзіць нейкая мяжа, што падзяляе тыя еўрапейскія дзяржавы, якія жадаюць у далейшым стаць членамі Паўночнаатлантычнага дагавора, і тыя, што імкнуцца да абароны сваёй бяспекі ў рамках СНД. Таму для Беларусі, якая стаіць на гэтай мяжы, было б лагічным захоўваць нейтралітэт, асабліва зараз, калі "халодная вайна" скончана і незалежнасці нашай дзяржавы непасрэдна ніхто не пагражае. Беларусь падтрымлівае і будзе падтрымліваць прынцыпы еўрапейскай бяспекі, сярод якіх найбольш важныя — нязменнасць межаў паміж дзяржавамі і выключэнне сілавых метадаў вырашэння ўзнікаючых міжнародных праблем. З гэтымі прынцыпамі цалкам згодна і Польшча.

Нашы краіны не толькі суседзі. Існуе і пэўнае ўзаемнае беларуска-польскае пранікненне: шмат палякаў жыве на Беларусі, а ў Польшчы ёсць даволі вялікая колькасць беларусаў. Іх праблемы ў час візіту польскага прэзідэнта таксама падрабязна абмяркоўваліся. Што датычыць "пагрозы паланізацыі ў Беларусі" (аб гэтым спытаў у Станіслава Шушкевіча адзін з журналістаў), то яе, як лічыць Старшыня Вярхоўнага Савета, зараз не існуе, нягледзячы на павелічэнне ўплыву рымска-каталіцкай царквы ў беларускім грамадстве. "Пераходны перыяд такі цяжкі, — дадаў Лех Валенса, — што без веры ў Бога і ў цуды нам нельга". Але ж на Бога спадзявайся...

*Напярэдадні падзеі*

# Да нас едуць беларусы

**Ірына ФЁДАРАВА**

**На 5 ліпеня запланаваны прыезд у Мінск удзельнікаў Першага з'езда беларусаў свету, які ладзіцца грамадскімі сіламі з удзелам дзяржаўных структур. Ініцыятар і арганізатар гэтай падзеі — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" — лічыць мерапрыемства унікальным і спадзяецца, што тры дні інтэлектуальнай працы на карысць нашай дзяржавы пакінуць у яе гісторыі прыкметны след.**

— Час падрыхтоўкі быў абмежаваны, — гаворыць старшыня рабочай групы па падрыхтоўцы з'езда ЗБС "Бацькаўшчына" Ганна Іванаўна Сурмач. — На яе прыйшлося каля трох месяцаў, датуль вырашалі, будзе з'езд ці не. Таму, канешне, узнікнуць нейкія арганізацыйныя хібы, за такі тэрмін можна падрыхтаваць толькі праграму-мінімум, а мы імкнёмся працаваць па максімуму. Тым не менш паліграфічныя пытанні ўжо вырашаны, залы для пасяджэнняў вызначаны, распрацавана каляз'ездаўская праграма — у ёй выстаўкі "Жыве Беларусь" і "Беларусы ў свеце", Купалле і свята паэзіі, урачыстасці ў Навагрудку, прысвечаныя гадавіне каранацыі князя Міндоўга. Мяркуем, што прыезджых набярэцца 800—900 чалавек. Усіх іх трэба размясціць, ды не абы-як, даць ім магчымасць пабачыць горад, Беларусь, наведаць родныя мясціны, кантактаваць з людзьмі.

**— Зыходзячы з якіх прынцыпаў фарміравалася прадстаўніцтва на з'ездзе айчынных беларусаў?**

— Мы павінны былі прадставіць сусвету сваю краіну, таму накіравалі запрашэнні асобам, якія вызначыліся сваёй дзейнасцю. Запрошаны і арганізацыі, якія кіруюцца прынцыпамі дэмакратыі, незалежнасці, нацыянальнага адраджэння. Не ўсе, зразумела, — у горадзе проста не знайшлося б залы для ўсіх. Таму, магчыма, нехта і пакрыўдзіцца на нас.

**— Ці зможа "чалавек з вуліцы", якога таксама цікавіць работа форуму, прысутнічаць на пасяджэннях, кантактаваць з замежнымі гасцямі?**

— Зала опернага тэатра, у якой пройдуць асноўныя пасяджэнні, разлічана толькі на 1100 асоб, таму ўсіх запрасіць мы не зможам. Аднак другі дзень работы з'езда вызначаны як дзень кантактаў. З раніцы пачнуцца дыскусіі "круглых сталоў" па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, гаспадаркі і прадпрымальніцтва, культуры, дыяспары, чарнобыльскай праблемы. Яны пройдуць у розных залах — тэатры імя Янкі Купалы, Доме літаратара, Тэатры юнага гледача, Акадэміі навук. Уваход свабодны, запрашаем падзяліцца думкамі ўсіх жадаючых. У другой палове дня мяркуюцца сустрэчы па інтарэсах у арганізацыях і ўстановах, кантакты з творчай і навуковай інтэлігенцыяй, моладдзю, жаночым хрысціянска-дэмакратычным рухам. Прэс-цэнтр і прэс-канферэнцыі з удзелам гасцей будуць працаваць "на журналістаў".

**— Ці мяркуецца прыняцце на з'ездзе нейкіх дакументаў?**

— Безумоўна. Не той зараз час, каб весці гаворку дзеля гаворкі, ператвараць падзею ў нейкае фальклорнае мерапрыемства. Мы жывём у той час, калі вырашаецца лёс Беларусі, таму сустрэчы за кавай лепш адкласці на потым. Сёння ж будзем разам думаць, якой хочам бачыць дзяржаву, як пабудаваць сваю эканоміку, адрадзіць культуру. Замежныя суайчыннікі не менш, чым мы, зацікаўлены ў гэтым — ад далейшага лёсу Беларусі залежыць і наш, і ў нейкай ступені іх лёс. Калі ў нас адродзіцца таталітарызм, яны надоўга страцяць Бацькаўшчыну.

Прыехаўшыя беларусы выкладуць свае пажаданні, мы павінны занатаваць іх, звесці, стварыць зварот да парламента і ўрада, намеціць праграму дзяржаўных адносін да беларускай дыяспары.

**— Ведаю, што не так даўно ў Мінску быў іншы з'езд — беларусаў бліжняга замежжа, але амаль ніякіх звестак пра яго ў друку не з'явілася...**

— Так, гэта падзея адбывалася ў снежні, і мы мелі прэтэнзіі да прэсы ў сувязі з тым, што яна надзвычай спакойна да таго з'езда паставілася. Між тым на ім упершыню ўзнімаліся пытанні пра становішча нашых суайчыннікаў у блізкім замежжы. У далёкім яны няблага жывуць, побач жа — безабаронныя. Па жывому рвуцца ўсе сувязі, многія з іх жадалі б вярнуцца сюды, але няма ні грошай, ні магчымасці. На тым з'ездзе быў прыняты зварот да ўрада. Зразумела, пытанні, узнятыя ў ім, не вырашаны, дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне няма, але аддзел па працы з дыяспарай ва ўрадзе створаны.

Спадзяёмся на ўвагу прэсы цяпер.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

*Адраджэнне*

# Ракурс лёсу

## Янка Запруднік — постаць эміграцыі, постаць Беларусі

**Ала СЯМЁНАВА**

Чалавек гэты быў невядомы і знакаміты. Невядомы — большасці беларусаў. Вядомы і знакаміты — у пэўных установах. Як вораг і зламыснік.

Чалавек быў не толькі па другі бок акіяна — па другі бок нашых усведамленняў.

Чалавек, прозвішча якога было жорстка забаронена цэнзурай. Нават спрачацца з ім (ці больш правільна — абліваць памыямі) маглі адзінкі: дапушчаныя, надзеленыя паўнамоцтвамі, так бы мовіць, з групы асобага даверу.

Янка Запруднік. Размова пра яго. Вучоны-гісторык, палітолаг, публіцыст, аўтар шматлікіх артыкулаў, радыёжурналіст (37 год на радыёстанцыі "Свабода"), рэдактар газеты "Беларус" у Нью-Йорку.

Хто ён на самай справе?

Сёння мы можам спакойна прачытаць напісанае ім. І ўпэўніцца — чалавек амаль 40 год вёў гаворку пра Беларусь. Яе лёс. Яе турботы. І меўся гаварыць пра тыя праблемы, пра якія мы насмеліліся ўголас мовіць толькі некалькі год назад. Праблемы маштабныя, фундаментальныя. Легітымная неаспрэчнасць беларускай дзяржаўнасці і суверэннасці, паўнацэннасць, сацыяльная паўнакроўнасць нацыі (не мужыцкай, паводле распаўсюджанага ўяўлення); нацыянальная свядомасць беларусаў; беларуская мова як аснова чыннасці духу беларусаў; рэлігія як грунт духоўнасці і маральнай чысціні.

Янка Запруднік адстойваў аб'ектыўнасць як неаспрэчны і адзіны падмурак навуковага даследавання, даводзіў абавязковасць шырокага погляду з улікам дасягненняў сусветнай навукі. Гаварыў пра тое, што нельга замоўчваць цэлыя перыяды ў гісторыі Беларусі, і канкрэтна пісаў пра Вялікае княства Літоўскае, пра значэнне "Нашай Нівы" (паводле афіцыйнай думкі ў БССР, яна лічылася luганна-буржуазнай, а прозвішчы двух з заснавальнікаў яе былі пад забаронай цэнзуры), пра БНР (Беларускую Народную Рэспубліку), якую трактавалі як "інтрыгу кайзераўскай Нямеччыны"; рабіў артыкулы пра КПЗБ, пра дзеячаў беларускага Адраджэння і г.д.

Янка Запруднік зыходзіў у сваіх працах з канкрэтыкі фактаў, дабіраўся да сутнасці рэчаў. Не баяўся весці гаворку пра паваротныя, важныя, спрэчныя моманты гісторыі Беларусі.

Таму і навешвалі на яго ярлыкі. Таму і абвінавачвалі ва ўсіх смяротных грахах.

Сёння я не збіраюся спрачацца з яго праціўнікамі і апанентамі. Факты творчай біяграфіі Янкі Запрудніка сведчаць самі за сябе. Памеры газетнага артыкула не дазваляюць разгарнуць гэтыя доказы (маю намер зрабіць гэта ў зборніку "З гісторыяй на Вы", які, спадзяюся, выйдзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура"). Але аб'ектыўнасць, талерантнасць — адметныя якасці Янкі Запрудніка. Ён ужо трэцім разам прыязджае на радзіму. Зараз — на палітычны кангрэс і як наглядальнік — на Першы сусветны з'езд беларусаў. Летась ён удзельнічаў у Міжнароднай канферэнцыі ў Маладзечна як адзін з галоўных дакладчыкаў, пазалетась прылятаў на Першы міжнародны кангрэс беларусістаў.

Дарэчы, тады, у 1991 годзе, гэта была сенсацыя. Упершыню! Эмігранты! Журналісцкі корпус быў як наэлектрызаваны. Падзея! І Янку Запрудніка, і яго калег з-за акіяна ўвесь час суправаджаў цэлы почат — людзі з радыё, тэлебачання, газет, выдавецтваў, навуковых устаноў. Ва ўсіх быў да іх інтарэс, і найвялікшы. Мне ўдалося замовіць матэрыялы, у 1993 годзе — узяць інтэрв'ю.

Некалькі фрагментаў з той размовы.

**— Спадар Янка, як Вы, чалавек, усё жыццё якога аддадзена беларускай ідэі, ставіцеся да сённяшняй нашай палітычнай сітуацыі? Якім сабе ўяўляеце сапраўднае Адраджэнне Беларусі?**

— Мне цяжка рабіць нейкія высновы. Шмат уражанняў. Але сустракаюся толькі з добразычліўцамі. Мяне ўладкоўваюць. Праграма раскладзена загадзя. У чэргах не стаяў. Па горадзе не хадзіў. Цікавасць — адно, ацэнкі — нешта іншае. Няма эмпірычнага матэрыялу. Не сутыкнуўся з цяжкасцямі. З варожым элементам не сустракаўся.

Якім я ўяўляю сабе Адраджэнне? Калі зірнуць на ход гістарычных падзей з сённяшніх пазіцый, параўнаць тую хвалю беларускага Адраджэння, нашаніўскую, з 1906 па 1915 год, і сённяшні момант, дык ёсць выразная розніца. "Наша Ніва" — гэта значыць, Антон Луцкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Вацлаў Ластоўскі і іншыя — гэта Адраджэнне, якое адштурхоўвалася шмат у чым ад пошукаў не проста сацыяльных і палітычных, але ад пошукаў сацыяльнай і палітычнай тэрміналогіі. А гэта паказчык зародкавага стану. Зараз ёсць відавочна выснаваная Беларуская Ідэя. Ёсць закамплексаваная, але ўсё ж Акадэмія навук. Ёсць дэмаграфічны слой, які можа выснаваць тэарэтычны падмурак ідэі. "Арсенал аналізу шмат багацейшы. Але і пагроза большая. Бамбардзіраванне расійскай культурай, масавай культурай. Супрацьстаянне большае. Прэсінг беларускага радыё і тэлебачання, цалкам залежных ад афіцыйных структур. Зрусіфікаваныя дзяржаўныя і культурныя дзеячы, у якіх відавочная і трывалая тэндэнцыя трымаць беларускую культуру на ўзроўні фальклорным. Нацыянальную псіхалогію — на ўзроўні побытавым.

**— Ваша думка наконт таго, што і ў дзяржаўных установах, і ў так званых грамадскіх структурах і згуртаваннях асобы, якія пазначаюць накірунак іх дзейнасці, — былыя партакраты, наменклатура?**

— Вялікая дзяржаўная трансфармацыя павінна ажыццяўляцца паступова. Ідэі дэмакратыі муcяць развівацца эвалюцыйна. Дэмакратыя вымагае цярплівасці.

Наконт камуністаў. Ёсць хрысціянская ідэя даравання блуднага сына. Трэба ўмець дараваць, трэба знаходзіць кампрамісы. Нават Ленін выкарыстоўваў старыя кадры. А тут ёсць людзі здольныя, са стажам працы ў гаспадарцы, людзі, якія ведаюць справу.

Што мне падаецца проста катастрафічным на Беларусі і ў былым СССР, гэта сістэма блату. Сістэма пратэкцый і пратэжыравання. І чым далей на Усход, тым болей. А гэта ніяк не спрыяе нармалізацыі і фінансава-эканамічнага, і палітычнага становішча.

Увогуле ж Беларусь сёння бедная на кадры прафесійна падрыхтаваных дзеячаў, палітыкаў, фінансістаў, бізнесменаў. Няма сваёй дыпламатычнай школы, дыпламатаў. Каб рыхтаваць іх — патрэбна шкаленне на сусветным узроўні. І тут — цяжкасці з валютай.

**— Якую палітычную сілу Вы лічыце сёння найбольш уплывовай? Хто можа даць штуршок нашай эканоміцы? Палітычнаму становішчу — як суверэннай дзяржавы?**

— На Беларусі — слабая заканадаўчая база. І ў сённяшнім Вярхоўным Савеце Беларусі 90 працэнтаў бюракратаў — анамалія. Гэта проста не прафесійна. Вярхоўны Савет раздзёрты — як структура прафесіяналаў. А для заканадаўчага органа абавязковыя перадумовы: прафесійнасць і палітычная культура. Як перадумова сапраўднай дэмакратыі — узаемадзеянне трохкутніка; заканадаўчая ўлада — выканаўчая — судовая. Вярхоўны Савет і завялікі.

Замежныя ж інвестыцыі ў неабходных аб'ёмах з'явяцца толькі тады, калі свет будзе бачыць, што тут не дрыгва, а цвёрды грунт. І становішча гаспадаркі, і дзейнасць банкаў і біржаў сведчаць пра дэфіцыт бюджэту, а значыць, і розуму.

Лічу, што падрыхтаваныя людзі ёсць, людзі ідэі — у БНФ. Гэта нацыянальная эліта. Групай апазіцыі на чале з дэпутатам Новікам распрацавана эканамічная праграма. За 2—3 гады зроблена цікавая праграма развіцця дзяржавы ўвогуле. Апазіцыя БНФ прываблівае і глыбінёю і мабільнасцю розуму. Добра развітым палітычным інстынктам.

Якая палітычная сіла найбольш перспектыўная? Прадказваць цяжка. Ніводзін палітолаг, ніводзін саветолаг дакладна не прадказаў краху СССР. Гісторыя смялейшая за самых смелых палітыкаў.

Сёння ж, як і раней, палітыку і эканоміку Беларусі вызначаюць адносіны з Расіяй. 2/3 экспарту — Расія. Нацыяналізм расійскі досыць культывуецца на Беларусі. А свет сочыць, як жыве самастойная, суверэнная Беларусь. Безумоўна, эканамічнае супрацоўніцтва з былым СССР неабходна. Калі без уціску і суцэльнай залежнасці.

**— Ваша думка наконт сённяшняга становішча беларускай мовы, нягледзячы на закон аб дзяржаўнасці — ці ёсць перадумовы для спраўджвання закона?**

— Беларускасць на Беларусі ўвогуле вельмі крохкая. Вось і новая эканамічная ініцыятыва на Беларусі — небеларуская. І дзяржаўныя пастановы ігнаруюцца. І ўсё ж закон ёсць закон. Ён дае права — дабівацца ў імя закона. Прыняцце закона аб дзяржаўнасці мовы — неацэнны крок.

**— Зараз, калі мы ўрэшце атрымалі магчымасць пазнаёміцца з вашай прэсай, відаць, як пільна вы сачылі за нашым жыццём. За мастацтвам, літаратурай у прыватнасці. Што пазначылі б Вы заўважнага ў нас на дзень сённяшні?**

— Змены ў прэсе адбыліся кардынальныя. Часопіс "Коммунист Белоруссии" стаўся "Беларускай думкай". Цікавы накірунак "Настаўніцкай газеты", "Звязды". Важны накірунак "Немана". Трансфармацыя перыёдыкі вызначальная. Але ёсць і "Славянские ведомости", "Мы и время" і г.д. З выразна выяўленай антыбеларускай, антырэфармісцкай, антысуверэннай пазіцыяй. Ну, і новая, так бы мовіць, трэцяя прэса. Выдатна з'яўленне "Нашай Нівы". Абставіны новыя, але карані ад луцкевічаўска-купалаўскай газеты.

Што датычыць новай літаратуры, то маё ўражанне — ідзе без компасу. Літаратура разгубілася. Сістэматычнага вывучэння ў мяне не было. Аглядаў не рабіў. А ўсё ж многае чытаў. Драбнатэм'е. Падзеі цяжкія. Прыгнятаючыя. Чарнобыль. Курапаты. Боль гэты не выказаны ў літаратуры. Маладыя ж — адны занадта ўсхваляваныя сваім дварышчам, не ведаюць вонкавага свету. Другія збіраюцца адкінуць ці не ўсіх папярэднікаў, пачаць ледзь не ад паганства.

**— Ваш погляд на літаратуру эміграцыі?**

— Літаратура невялікая ані колькасна, ані якасна. Арсеньева. Язэп Менскі, брат Язэпа Пушчы. Сядура. Ён не так багата напісаў, але ўзровень па-сапраўднаму высокі. Выдзеліў бы гэтых трох. Іх значэнне вышэйшае. І вырастае зараз.

Увогуле... Наш погляд на свет выглядаў донкіхоцкім, але... Вось праглядаю сваю публіцыстыку — гісторыя паставіла яе на цвёрды грунт.

Было зададзена і тое, казытлівае, пытанне:

**— Як сталася Ваша знаходжанне за мяжой? Чаму і як адбылося?**

— З'ехаў у 1944 годзе, у 16 год. Быў выбар паміж няпэўнымі цяжкасцямі і пэўнымі. Ведаў пра рэпрэсіі 1939—1941 гадоў у Заходняй Беларусі. Сам я з Міра. Падчас вайны вучыўся ў Баранавіцкай прагімназіі. Партызаны ж дазвалялі наведваць толькі пачатковую школу. Прынамсі, немцы не давалі згоды на існаванне поўнай сярэдняй школы. Быў скаўтам, членам СБМ (Саюза беларускай моладзі). У Рэгенсбургу, потым у Міхельсдорфе быў у лагеры для перамешчаных асоб. Скончыў у 1947 годзе гімназію. З'ехаў разам з хлопцамі ў Ангельшчыну працаваць на шахты. Сталі выдаваць бюлетэньчык "Наперад". Потым скончыў Лювенскі універсітэт. Пазней — радыёстанцыя "Свабода". Газета "Беларус". Увесь час жыў Беларуссю. Заварожаны Беларуссю.

...Некалькі дзён назад гэты выспартаваны, элеганцкага выгляду чалавек сышоў з трапа самалёта на сваю, беларускую зямлю. Чалавек, што ішоў сваім шляхам. "...Перад вачмі Госпада шляхі чалавека, і ён вымярае сцяжыны яго".

Чалавек вяртаецца да сваіх крыніц. Хай яны будуць благаславёныя для яго.

*Рэпарцёр даведаўся*

## А пакутуюць дзеці

**Трывожную статыстыку абнародавала пракуратура Гомельскай вобласці. Пры праверцы дашкольных устаноў экалагічна небяспечнага Брагінскага раёна выявілася, што ў некаторых з іх у меню не хапае і палавіны патрабуемых па нормах прадуктаў.**

Мясныя стравы пры гэтым не заўсёды праходзяць радыелагічны кантроль.

Што ж, пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы ў першую чаргу адбіваецца на жыцці грамадзян, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

**Віктар КОТАЎ,**
**Белінфарм.**

г.Брагін.

*Вяртаючыся да надрукаванага*

## "Дзе будаваць жылы дом? У вёсцы"

**Пад такім загалоўкам 19 чэрвеня ў "Народнай газеце" па ініцыятыве першага намесніка старшыні Мінскага аблвыканкама А.М.Жука быў змешчаны спіс вёсак, прапануемых упраўленнямі сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкамаў і камітэтам па сельскай гаспадарцы і харчаванню Мінскага аблвыканкама жыхарам гарадоў і райцэнтраў вобласці для будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў.**

Пасля гэтага рэдакцыю апанавалі бесперапынныя тэлефонныя званкі. Многіх жыхароў г.Мінска хвалюе адно пытанне: куды звяртацца, хто канкрэтна вырашае дадзеную праблему?

У рэдакцыю паступіў ліст загадчыка аддзела па зямельнай рэформе і землеўладкаванню Мінскага аблвыканкама сп. Гарбачэўскага. Ён дае наступнае тлумачэнне:

"... населеныя пункты Казельшчына, Масловічы, Хацежына, Броўкі і Навашына Мінскага раёна пастановай N 1-22 ад 05.02.93 г. сумеснага пасяджэння выканкамаў Мінскіх абласнога і гарадскога Саветаў народных дэпутатаў вызначаны для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва для жыхароў г.Мінска з наступным адводам участкаў ва ўстаноўленым парадку Мінскаму гарвыканкаму для размеркавання паміж грамадзянамі.

Таму для атрымання зямельных участкаў для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў вышэйназваных населеных пунктах жыхарам г.Мінска неабходна звяртацца ў Мінскі гарвыканкам, а ў іншых пералічаных у інфармацыі населеных пунктах — у райвыканкамы па месцы знаходжання просімых зямель".

Мяркуем, цяпер чытачам газеты не трэба будзе званіць у рэдакцыю і высвятляць шэраг пытанняў.

*Усміхнёмся з мастаком*

Малюнкі Алега ПАПОВА.

*Откровения*

# Почему среди студентов-медиков не бывает вундеркиндов?

## Грустные, но реалистические размышления и наблюдения ректора Минского мединститута профессора Кубарко

**Елена МОЛОЧКО,**
**обозреватель**
**"Народной газеты"**

Известно, что медиков, как и политиков, у нас критикуют все. И я, признаться, в этом смысле не исключение. Поэтому мой первый вопрос ректору мединститута, профессору Кубарко был далеко не оригинальным: почему наши врачи так плохо лечат?

— По-моему, наши врачи достойны государства, в котором они работают, ответил Алексей Иванович.

В наступившей паузе я успела оценить иронию собеседника. Разговор обещал быть интересным. Правда, тогда, в первый день нашего знакомства, я не предполагала, что интервью растянется на целых две недели. При всей пунктуальности Алексея Ивановича ему не раз приходилось переносить встречи: слишком многое в вузе замыкается на нем, ректоре. И это при том, что "девятый вал" посетителей еще впереди — во время приемных экзаменов. Я даже посочувствовала:

— Ректорское кресло, наверное, сужает мир до предела...

— Да, если за него держаться, — был ответ.

— Похоже, вы — человек с большим самообладанием.

— В некоторых вопросах, пожалуй.

— В институте говорят, что вы умеете ладить с людьми.

— Мое кредо: не думай о человеке плохо — раз. И второе: будь осторожен.

— Вам знакомо чувство отчаяния?

— Я не склонен к крайностям...

Нетрудно было уловить, что на вопросы личного характера профессор отвечал довольно сдержанно. Жаль. Его лаконичная и предельно емкая биография: студент — преподаватель — ректор (и все в одном и том же Минском мединституте!) была заманчивой канвой для журналистской зарисовки. Его внешность, манера держаться — подтянутость, внимательность, я бы даже сказала строгая любезность — говорили о внутренней интеллигентности. Такому преподавателю, наверное, внимают и подчиняются с удовольствием. Я даже слегка позавидовала студентам, которым ректор читает лекции.

— Алексей Иванович, а у вас есть любимые студенты?

— Целые курсы.

— Отличительная черта сегодняшних вузовцев?

— Слабая ориентировка на самостоятельный поиск. Имеют знания, но не умеют рассуждать, анализировать, сопоставлять. То есть стало больше схоластически образованных ребят, тех, кто осознает, но не мыслит. Почему? А мы ведь с детства ведем их за руку, и в результате воспитываем ведомых. У большинства приглушен естественный инстинкт познания, поиска неизвестного. Но поверьте моему опыту: научить никого нельзя, можно только самому научиться. Самостоятельность — это синоним ответственности перед самим собой, это одно из условий адаптации к реальности, а вовсе не педагогическая уловка педантичных преподавателей. Вот уровень этой ответственности-то и снизился.

— Но вы же имеете возможность выбирать лучших из лучших, в ваш вуз всегда такой конкурс. Считается даже, что без блата в медицинский нечего и пробовать.

— Подобное мнение доказывает всего лишь устойчивость стереотипа общественного мышления. Не больше. И еще один чисто психологический момент. Кто признается, что плохо знал предмет? Получил "двойку" — значит, конечно же, "зарезали" бедолагу. Но обратите внимание на наш проходной бал — последние годы он достаточно невысокий. При протекционизме же, напротив, оценки обычно завышаются, чтобы подстраховать протеже от случайностей. После второго вступительного экзамена я обычно просматриваю ведомости. Если много "круглых" отличников, если идут сплошные "пятерки" — значит, есть повод для размышлений, что некоторых абитуриентов "тянут". Из четырех экзаменов три у нас сдаются письменно. Так что всегда есть возможность вернуться к работе и перепроверить ее еще раз. Кстати, мы не отказываем в экспертизе, если родители абитуриента на ней настаивают. И вообще, я всегда приглашаю родительские комитеты на вступительные экзамены. Это ведь в наших интересах: выбрать действительно лучших.

— Но вот парадокс: из хороших студентов далеко не всегда получаются хорошие врачи.

— Совершенно верно. Институтское образование за шесть лет дает человеку лишь базисную подготовку. Потом, чтобы стать специалистом, надо учиться, как минимум, лет десять. Потому что врачом, по моему убеждению, студента-медика делают не только знания, но и нравственный опыт, моральное осознание самого себя. А для этого требуется время и большая практика. Мы же слишком рано выдаем человеку диплом с правом самостоятельной работы, и сами, таким образом, заведомо снижаем планку требовательности к профессии. Между тем, хочу подчеркнуть: профессиональное и моральное созревание человека идут не одними и теми же темпами. Согласитесь, мы не раз слышали о математиках-вундеркиндах в 14 лет. Но врач-вундеркинд — это нонсенс. Даже имея семь пядей во лбу, ни в пятнадцать, ни в двадцать лет ты им не станешь. Для нашей профессии нужна психологическая зрелость — ведь речь идет об ответственности за жизнь и здоровье другого человека. На это уходят годы. Нигде в мире нет такого короткого срока обучения врачей, как у нас. Но мы все хотели делать по-своему, а главное, быстро: пятилетку — в четыре года, врача — за шесть лет. Государству требовалось количество, и оно этого добилось. Врачей много, а специалистов? И какое доверие к нашей медицине? Мы вручаем молодому человеку диплом, где называем его хирургом, и сами снижаем барьер требовательности к профессии. Потому что после шести лет вуза он никакой еще не хирург, не педиатр, не гинеколог. Он всего лишь врач с общей медицинской подготовкой, не имеющий практики. Не больше. Если бы ректором мединститута был я...

—?!

— Да-да, вы не ослышались. Так вот, если бы я был ректором с юридическими правами, я бы кардинально изменил вузовскую подготовку студентов-медиков. Первые четыре года — общеобразовательная университетская подготовка. Следующие четыре года — изучение только медицинских предметов. Потом экзамены и диплом врача общей практики без права на самостоятельную работу. После 2—3 лет практики, когда молодой врач рядом с опытным специалистом немного вошел в профессию, овладел азами философии взаимоотношений "врач — больной", "врач — родственники больного", следовало бы сдавать квалификационные экзамены, которые бы, наконец, давали право на работу лишь врачом общей практики. А для того, чтобы стать специалистом — хирургом, педиатром, офтальмологом, извольте еще поучиться несколько лет, снова сдать экзамены и снова попрактиковать рядом с опытным коллегой. Ощущаете потребность более узкой специализации? Что ж, еще 2—3 года учебы в аудитории, квалификационные экзамены, практика и вот вы, наконец, — профессионал: нейрохирург, травматолог, психотерапевт. И только так, в четыре этапа, которые, наверное, займут лет десять, студент может стать врачом-специалистом.

— Представляю, как схватятся за голову наши финансисты — ваш проект требует миллиардов.

— Ах, долго, дорого? Но тогда что вы подразумеваете под выражением "национальное богатство", если не здоровье нации? Почему-то в экономике мы боремся за качество, и это считается нормальным. Между тем, я бы подготовку врача на одну ступеньку с подготовкой инженера не ставил. Все-таки инженером при определенном усердии может, знаете ли, стать каждый. Но врач — профессия штучная, она ближе к творчеству, чем просто к ремеслу. Если бы я был ректором с правами ректора, то уже после второго курса обучения устроил новый конкурсный отбор студентов. И на третий курс допускал бы не только по оценкам (согласитесь, медик-"троечник" — это нонсенс, такие студенты должны быть отчислены первыми), но и по тестам, по наблюдениям педагогов. По моему глубокому убеждению, врач кроме знаний должен обладать еще и определенными природными свойствами, в какой-то степени даже даром. Но никакие вступительные экзамены не дают об этом ни малейшего представления. Да и сам человек много ли о себе знает в 17—20 лет? Но через два года учебы в мединституте обычно кое-что проявляется. Студенты начинают ходить в клинику, изучают курсы "Уход за больными", "Личная гигиена", и уже по поведению, по степени требовательности к себе, по отношению к пациентам педагоги могут делать выводы. Плюс профессиональные тесты, имеющие законодательную силу. Увы, далеко не каждого отличника природа наделила душевными свойствами, необходимыми врачу... Но его, "отчисленца", я бы не терял, а дал возможность получить среднее медицинское образование — здесь же, в вузовских стенах. Пусть бы подготовка функциональной единицы — врач и медсестра — шла параллельно. Во многих странах поступают именно таким образом. По-моему, разумно. Впрочем, там совершенно другие масштабы: один преподаватель — на 2—3-х студентов. У нас преподаватель — на 7—8 человек.

— Простите мою некомпетентность, профессор, но разве это много?

— О! Есть разница, сколько человек вам, пациенту, заглядывает в барабанную перепонку? А в операционную рану? Ну, и так далее. Студенту-медику надо ведь не только рассказать. Ему надо все показать, дать возможность пропальпировать, прочувствовать. Мы ходим по городским клиникам, но там мы — гости, не всегда званные. Неудобно студентам, обременительно для больных... У клиники все-таки должен быть один хозяин. Везде на Западе при медицинских учебных заведениях существуют свои клиники. Там вообще организовано единство процесса обучение — лечение — наука. Кстати, университетские клиники (медицину там изучают в университетах) — это самые квалифицированные медицинские учреждения, которые задают уровень медобслуживания всей стране. Самые последние достижения науки, самое современное оборудование — все там, в университетских клиниках. Ну, а наши городские больницы работают иногда по технологиями 30—40-летней давности. Мы выпускаем врачей, которые, как, например, наши стоматологи, овладевают уже ушедшими методами. Брак? Конечно! Но у нас нет материальной возможности его избежать. Государство не обеспечивает нам изначальных условий для качества. Так что прекратим упреки в адрес медицины...

— ...а лучше займемся переосмыслением и изменением государственной системы подготовки медиков. Вы не прикидывали, сколько на это понадобится времени?

— Лет десять-пятнадцать.

— Значит, есть надежда увидеть результаты еще при нашей жизни.

— Только в том случае, если создадим условия для изменения вузовской системы уже сейчас, сегодня.

*Наболело!*

# До каких пор люди в Западной Беларуси будут подвергаться дискриминации?

**Константин ЖУКЕВИЧ**

Все пожилое сельское население Западной Беларуси, работавшее в 1944—1950 гг. на единоличных крестьянских хозяйствах, лишено права на трудовой стаж за этот период на основании статьи 51 Закона Республики Беларусь "О пенсионном обеспечении", как якобы не уплачивавшее налог на социальное обеспечение. В колхозах же работа в этот (и даже довоенный) период засчитывается в трудовой стаж при назначении пенсий.

Естественно, возникает вопрос: почему такая несправедливость в отношении пожилого сельского населения Западной Беларуси имеет место и теперь? В чем оно провинилось?

Ведь колхозов в Западной Беларуси после 17 сентября 1939 г. и до начала Великой Отечественной войны не было. Не было их и после освобождения от фашистской оккупации аж до осени 1949 — весны 1950 гг.: лишь тогда органами советской власти была проведена массовая коллективизация. Более того, не по своей же воле Западная Беларусь оказалась под буржуазной Польшей, не сопротивлялись крестьяне Западной Беларуси и коллективизации. Такова была государственная политика СССР, за которую приходится рассчитываться ни в чем не повинным простым людям.

Между тем удельная величина денежного налога и госпоставок сельхозпродукции по мизерным закупочным ценам (зерна, картофеля, сена и др.) с 1 га пашни и сенокосов и пастбищ для единоличных крестьянских хозяйств в то время была установлена **значительно выше**, чем для колхозов!

Так, например, единоличные хозяйства Несвижского района после освобождения от оккупации и до коллективизации сдавали по госпоставкам зерна с 1 га (в зависимости от наличия пашни) в следующем размере: до 3 га — 120 кг/га, свыше 3 и до 7 га — 140 кг/га и свыше 7 и до 9 га — 180 кг/га. В то же время колхозы сдавали по поставкам зерна лишь по 100 кг/га. Крестьянские хозяйства сдавали также молоко, мясо, шерсть овец, яйца, платили налог за пчел, садовые деревья и кустарники страховку. Словом, единоличные крестьянские хозяйства в расчете на гектар уплачивали денежных налогов и сдавали госпоставок сельхозпродукции столько, **сколько колхозам в то время и не снилось!**

Так почему же не учитывается тогда в трудовой стаж работа на единоличном крестьянском хозяйстве в Западной Беларуси хотя бы в послевоенные годы? Иначе, как дискриминацией, это объяснить ничем нельзя!

Между прочим, даже буржуазное польское правительство до 1939 г. выплачивало пенсии людям, получившим во время войны инвалидность **не в польской,** а в **царской** армии. Неужели в нашем Верховном Совете нет ни одного депутата пожилого возраста, который бы сам работал в тот период на единоличном крестьянском хозяйстве? И знает, что сельское население западных областей Беларуси честно трудилось, выполняло все требования государства по налогам и госпоставкам сельхозпродукции и поэтому **не в долгу** перед строящимся правовым государством! И что в трудовой стаж работу в период 1944—1950 гг. на единоличном крестьянском хозяйстве следует учитывать, тем более что сейчас фермерские хозяйства поощряются.

Поскольку этот вопрос касается сотен тысяч людей, прошу работников соответствующих служб разъяснить все публично, через "Народную газету". Или я в чем-то не прав?

*Мнение*

# Так держать!

**Владимир КОВТУР**

Мне 57 лет, последние 27 работаю мастером на стеклозаводе "Тута" в Поставском районе. С первого дня выхода в свет "Народной газеты" я являюсь ее постоянным читателем и подписчиком; агитирую товарищей за подписку. Хочу выразить благодарность коллективу газеты за интересную информацию, которую мы читаем на страницах газеты, за смелые, демократичные высказывания корреспондентов, за поиск правды и справедливости, за разоблачение всякого рода дельцов и махинаторов.

Хочется пожелать вашему коллективу силы и уверенности в борьбе за выживание в это трудное время и выразить надежду, что "Народная газета" под руководством главного редактора выдержит все бури, так как на ее стороне огромная армия подписчиков.

Попутно хочу высказать свое мнение, а также мнение товарищей по работе в отношении проблемы языка как государственного. Обидно за наших соотечественников-белорусов, что мы ведем какую-то дискуссию о том, государственным языком должен быть русский или белорусский. Какое же мы самостоятельное государство, не имея своего языка? Конечно, должен быть белорусский. Лично мне из-за своего возраста, когда везде — и в школах, и в учебных заведениях — учили на русском, несколько проще и быстрее выразить мысль на русском языке, "але я, як і мае сябры, люблю і паважаю беларускую мову, асабліва чыстую, не "трасянку", і як патрыёт сваёй дзяржавы хачу, каб паступова, без насілля, беларуская мова была ўведзена ў статус дзяржаўнай".

Но главное, что меня взволновало и ради чего я взялся за перо — это статья в "Народной газете" (N 70 от 15 апреля) "Жевательная резинка для бедствующей армии". По чистой случайности несколькими днями раньше я разговаривал с некоторыми родителями, чьи сыновья служат в одной из частей возле г. Поставы. Отец солдата рассказал, что кормят очень плохо, что раза два в месяц возят сыну продукты из дому, а если кому не привезут, тогда солдаты по очереди берут увольнительные и идут в деревню, которая находится рядом, чтобы у колхозников купить хлеба и молока. Так пускай бы генерал-майор А.Христофоров поинтересовался этими фактами. Может быть, он не знает, в чем я сомневаюсь, тогда, может быть, не уходило бы на сторону десятками тонн масло, а хотя бы на праздник попало и на стол солдатам. Преступными махинациями занимаются некоторые хозяйственники в армии: и те же дефицитные шубы, и та же облицовочная плитка. А сколько запчастей к машинам уходит на сторону! Генерал-майор, конечно, защищает честь мундира, но ведь есть же другие контролирующие службы и в армии, и, в конце концов, в Совете Министров Республики Беларусь. Очень сомнительные разговоры и постановления правительства о борьбе с коррупцией и преступностью. Если не хватает контролирующих органов, пускай увеличивают их численность, важно, чтобы был порядок. И чтобы порядок начинался сверху.

А газете хотелось бы пожелать, чтобы и в дальнейшем так же остро вскрывались различного рода негативные явления, а также давались выводы соответствующих органов, что сделано по выступлению газеты.

*Реплика из редакции*

# Неизвестных ветеранов не бывает

**Несколько дней тому назад в редакцию "Народной газеты" передали письмо, подписанное председателем Ленинского районного совета организации ветеранов г.Минска В.Уховым. Адресовалось оно не столько нам, журналистам, сколько — Верховному Совету Республики Беларусь. И было бы напечатано, если бы не одно "но".**

Нет, нас не смутила приписка типа той, что письмо "обсуждено и единогласно принято на..." Как и решительное утверждение, что "без участия в системе коллективной безопасности наша республика не сможет обеспечить ни свою безопасность в современном мире, ни созидательный, мирный труд нашего народа, его достойное будущее". Или — "глубоко неправы авторы обращения к сессии Верховного Совета и выступая против введения в Республике Беларусь государственного двуязычия, признание русского языка вторым государственным языком нашей республики. Ведь для преобладающего большинства народа в нашей республике русский язык является не просто языком межнационального общения, а вторым родным языком".

Мы сегодня не будем вступать в дискуссию с его авторами. Но и нельзя пройти мимо такого факта. Читаем: "Ленинский районный совет ветеранов г.Минска решительно протестует против позиции **неизвестно где и кем собранной группы ветеранов Великой Отечественной войны...**" Как же так — письмо-обращение "обсуждено и единогласно принято" на расширенном заседании президиума, а "решительно протестует" весь районный совет ветеранов? А что значат слова "неизвестно где и кем собранной группы..."? Почему такое недоверие к таким же ветеранам, как сами? Под публикацией, помещенной в "Народной газете" 4 июня с.г. ведь значатся конкретные подписи. Подтверждаем: все ветераны Великой Отечественной войны, фамилии которых перечислены под письмом в поддержку С.С.Шушкевича, проживают в г.Клецке Минской области (кстати, оно напечатано и в местной газете). Очень уважаемые люди, но их мнение, как видите, не совпадает с вашим, члены президиума Ленинского совета организации ветеранов г.Минска. Что ж, бывает. Но это не может служить поводом для ведения полемики в неуважительном тоне. К сожалению, это отчетливо просматривается в первом же предложении письма-обращения в Верховный Совет Республики Беларусь. Именно это и удержало редакцию от его публикации, хотя сегодня мы практически пересказали весь текст документа.

*Дазвольце выказацца...*

# Жабрак ніколі не будзе свабодным

**Мікалай БЯЛЯЕЎ, дэпутат Баранавіцкага гарсавета**

Мая сям'я выпісвае "Народную газету" з першага дня яе заснавання. Яе матэрыялы з'яўляюцца тэмай размовы не толькі ў хатнім кругу, але і на пасяджэннях дэпутацкага дэмакратычнага клуба. Нас, як і газету, хвалююць многія праблемы. Я лічу бязглуздымі прапановы наконт калектыўнага саюзу, калектыўнай ваеннай бяспекі, якія ўскалынулі рэспубліку. Не ведаючы ворага, раптам з'яўляецца заклік адмовіцца ад нейтралітэту. Ці не робіцца гэта дзеля таго, каб мы ніколі не змаглі ўстанавіць добрасуседскія адносіны паміж Польшчай, Украінай і краінамі Балтыі? Не такі сп. Кебіч і Ко каб не разумець, што калектыўная бяспека — гэта Беларусь як буферная зона Расіі, а значыць, панаванне ВПК, знішчэнне экалогіі, культуры, мовы і наогул беларускага этнасу.

Амаль сорак гадоў я звязаны з прамысловай вытворчасцю. Працаваў 25 гадоў начальнікам цэха вымяральных прыбораў і аўтаматыкі, маю тры вынаходніцтвы і больш за трыста рацпрапаноў. Дзесяць гадоў адпрацаваў у Казахстане на асваенні цалінных зямель. Трошкі ведаю, як хлеб вырошчваюць, як яго перапрацоўваюць і як тканіны вырабляюць. За 54 гады наглядзеўся на розных кіраўнікоў. Скажу шчыра, зараз многія з іх нікуды не вартыя. Яны, як той мядзведзь, які нарадзіўся і жыў у няволі, а калі яго выпусцілі на волю, дык ледзьве не памёр з голаду і сам, абшарпаны, прыйшоў у клетку. Глядзіце, наша бавоўнянае аб'яднанне ўжо некалькі разоў брала велізарныя паверы (крэдыты)і ні на крок не прасунулася. Наадварот, фінансавае становішча ўсё больш пагаршаецца. Затое заробак нашых кіраўнікоў за месяц роўны прыкладна паўгадавому заробку Старшыні Вярхоўнага Савета. Гляджу я на гэтыя выверты і думаю: баль у перыяд чумы.

За тры гады дэпутацтва цвёрда пераканаўся: на дадзеным этапе прадстаўнічая ўлада на грамадскіх пачатках — гэта ўлада кучкі былой партыйна-гаспадарчай эліты. Жабрак ніколі не будзе свабодным. Дэпутат, які выконвае свае абавязкі і не мае рэальнай улады ў выглядзе крэсла дырэктара, старшыні калгаса, старшыні выканкама, кіраўніка камерцыйнай ці мафіёзнай структуры, — жабрак. А жабрака рана ці позна купяць, і праз пэўны час ён будзе паслухмяна выконваць жаданні "гаспадара". Вось ад гэтага і ўсе захады "власть предержащих" наконт новай Канстытуцыі. Сёння тыя, у каго ўлада, ніколі не зробяць і не згодзяцца на прафесійныя прадстаўнічыя органы.




Рисунок Олега ПОПОВА.

*Дажыліся!*

# Пра "Родных дзяцей" і матчыну мову

**У гэтым годзе ў выпускны экзамен па беларускай літаратуры за курс сярэдняй школы ўключана паэма Ніла Гілевіча "Родныя дзеці", твор шматгранны і вельмі надзённы.**

За тры месяцы да экзамену я пачаў шукаць гэтую кніжку. Ні ў школьнай, ні ў сельскай бібліятэцы паэмы не знайшоў. Пошукі яе ў кнігарнях Рэчыцы, Васілевіч, Калінкавіч, Мазыра, Гомеля станоўчых вынікаў таксама не далі.

Рызыкнуў напісаць ліст самому Нілу Сымонавічу, каб вымаліць хаця б адзін экземпляр з аўтарскага фонду. Але Ніл Сымонавіч вырашае ў парламенце глабальныя праблемы і яму не да нейкай Ведрыцкай сярэдняй школы. А можа, не дайшоў да яго мой ліст? Не ведаю, але адказу не атрымаў.

Нарэшце, з цяжкасцямі знайшоў адну кнігу ў перакладзе на рускую мову, выдадзеную "Советским писателем", і дзеці за дзень да экзамену чыталі ўсю ноч уголас гэтую паэму.

Дажыліся, дакаціліся!

Не магу знайсці паэму "Родныя дзеці" ў беларускім выданні, каб паглядзець, колькі экземпляраў пайшло ў свет. Уявіце: у Беларусі тысячы школ і бібліятэк, а беларускія паэтычныя творы выходзяць тыражом у трыста (!) экземпляраў. Выйшла кніга "Матчына мова" тыражом 2300 экземпляраў, а трэба было б, каб наклад яе быў сто тысяч, бо там сабраны лепшыя творы беларускіх пісьменнікаў пра нашу "ільняную і жытнёвую" мову, як пісаў Пімен Панчанка.

Як мы можам гаварыць пра Закон аб мовах, пра яго выкананне, пра нацыянальнае Адраджэнне, калі беларуская кніга свядома душыцца, а руская — на кані! Трэба ствараць такую моўную атмасферу ў рэспубліцы, каб куды ні паткнуўся — усюды знайшоў толькі беларускае выданне, толькі беларускае слова.

А ў нас — парадоксы на кожным кроку. 30 мая г.г. тэлежурналіст Аляксандр Радуцкі бярэ інтэрв'ю ў Генеральнага пракурора Беларусі В.І. Шаладонава. Задае пытанне па-беларуску, а пракурор дае адказы на рускай мове. Радуцкі не вытрымаў моўнага магнетызму Генеральнага пракурора і здаўся: перайшоў на рускую. А памятаеце, будучы намеснікам С.С.Шушкевіча, Васіль Іванавіч крыху наламаў язык і вёў пасяджэнні Вярхоўнага Савета па-беларуску. Васіль Іванавіч Шаладонаў павінен першым паказваць прыклад выканання Закона аб мовах. Што перашкаджае нашаму Генеральнаму пракурору рабіць гэта? Перашкод, згадзіцеся, няма.

Вячаслаў Францавіч Кебіч на 1-м з'ездзе ТБМ імя Ф.Скарыны ў прысутнасці рыцараў беларускага слова кляўся, што з 1 верасня загаворыць на беларускай мове. Мінуў не адзін верасень, а абяцанне засталося абяцаннем.

Мы, выбіраючы сабе правадыроў, пачынаючы з раёна і канчаючы Мінскам, ніколі не пыталіся ў іх, ці ведаюць яны, узлазячы на пасаду, мову таго народа, якім збіраюцца кіраваць. Больш глядзелі на агонь бальшавіцкі ў іхніх вачах.

Вось і даўзіраліся да таго, што ў нас у Беларусі беларускасці хутка не ўбачым, як любіў калісьці гаварыць на лекцыях мой прафесар з БДУ І.В.Гутараў, не тое што пад мікраскопам, а нават ў самаварную трубу.

І напаследак. Былая вучаніца Ведрыцкай сярэдняй школы працуе настаўніцай пачатковых класаў у Мінску. Пару гадоў назад усёй школай угаварылі яе папакутаваць за ўсіх і ўзяцца весці беларускамоўны першы клас. Згадзілася, але плакала горкімі слязьмі, бо для нармальнай работы ў гэтым напрамку ў школе літаральна нічога не было. Вось і стала званіць і пісаць яна ў Ведрыч, каб дастаць хоць якое каліва нагляднасці на роднай мове. А ў справаздачах аб трыумфальным шэсці беларускай мовы па школах і садках Беларусі — шык і бляск!

Дажыліся, адным словам...

**Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК, пісьменнік, дырэктар Ведрыцкай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна.**

*Горькая действительность*

# Поезд... военного времени?

Вы видели поезда военного времени?

Да, те самые, которые приходят в нашу память из свидетельств документальной кинохроники. Те самые, обшарпанные, окутанные паром и изморозью, с выбитыми стеклами и поломанными дверями, с орущими толпами желающих ехать любой ценой, стоящих, сидящих, висящих в тамбурах и на подножках.

Так вот, если у вас поблекла яркость однажды увиденной картинки, приходите на Брестский вокзал по пятницам, часам этак к 17—18. В это время отправляются по местным маршрутам области дизельные и электрические поезда. Именно там я и увидел во всей красе поезд военного времени.

Все началось, как и в те далекие годы, с задержки. Состав по маршруту "Брест—Лунинец" был подан за три минуты до отправления. Но какой это был поездок! Вместо красивого и вместительного, цельнометаллического и современного дизельпоезда подогнали составчик из семи наспех подобранных вагонов.

К тому же вместо двух дверей открыли одни, с проводницей на входе. Начался настоящий штурм. Никто не обращал внимания на женщин и детей, на больных и старушек. Висел над перроном стон сотен жаждущих ехать людей. И только в сторонке одинокая старушка истово крестилась, шепча: "Люди, вспомните имя свое!"

Проводница не оправдывалась. Она только всхлипывала от каждого упрека. И еще говорила:

— Почему вы не разнесли кабинет начальника?..

А областное железнодорожное начальство показывает на республиканское и... потихоньку заменяет дизельные поезда на пассажирские, что гораздо дороже. Людей в расчет никто не принимает.

Так что привыкайте, граждане, к поездам военного времени, которое, по всей видимости, уже не за горами.

**Павел БЕНЦ.**

г.Брест.

*Задумаемся!*

# Калі мы не хочам дачакацца страшнай помсты...

Калі я заходжу ў кватэру, дзе ёсць немаўля, вельмі часта чую скаргу на тое, што дзіця пастаянна крычыць і плача і ўдзень, і ўначы. Пытаюся аб харчаванні і часцей за ўсё чую, што малако "згарэла" за месяц, таму кормяць малое сумесямі. На тым тыдні пашанцавала здабыць фінскую, на гэтым — нямецкую, а сёння давалі айчынную. Заўтра наогул не ведаюць, чым карміць.

Чаму нашы жанчыны не ў стане выкарміць уласным малаком сваё адзінае (цяпер амаль у кожнай сям'і) дзіця? Гэта вельмі цяжкая і не кожнаму даспадобы гаворка. А можа, маладыя мамы проста не ведаюць, што большасць хранічных захворванняў страўнікавай сістэмы дарослых — гэта вынік таго, што дзіця змалку не бачыла мацярынскага малака. Дэрмата-рэспіраторныя алергозы, якія потым ператвараюцца ў бранхіяльную астму, хранічныя хваробы скуры і вядуць да частых і доўгіх вірусных захворванняў, маюць вытокі ў першых кроплях штучнага харчавання, якое сапсавала яшчэ слабую імунную сістэму дзіцяці.

Мне вельмі балюча пісаць пра тое, што наша краіна не вельмі клапоціцца пра сваю будучыню. Мы ўсе цяпер цярпім нястачы, усім цяжка. Але што чакае краіну, якая не ў стане накарміць сваіх дзяцей? Чаму немаўляты шматпакутнай Беларусі ў 1993 годзе амаль не маюць сваёй харчовай прамысловасці?

А цэны на дзіцячае харчаванне і вопратку становяцца ўсё больш не па кішэні. Не можа маладая сям'я зарабіць сумленна такія грошы. З гэтым штосьці неадкладна трэба рабіць. Калі наперадзе ўжо бачна пачвара беспрацоўя, калі нельга ўжо спадзявацца на ўласнае жыллё, рэакцыя моладзі можа быць адна: перастануць наогул нараджацца дзеці. Гэта будзе страшная помста і цяперашнім палітыкам, і ўсім нам. Бо калі цяперашнія 40—50-гадовыя заможныя людзі састарэюць, можа стацца так, што іх не будзе каму карміць і даглядаць.

**Ала КАСЦЮЧЭНКА, педыятр 5-й мінскай дзіцячай паліклінікі.**

*Есть идея!*

# Надо ли кошке гоняться за своим хвостом?

**Артур КУЗЬМИН, профессор**

Высшее техническое образование в странах СНГ до сих пор основано на призрачной, утопической идее, будто технический вуз может выпускать инженеров, готовых к работе на конкретном рабочем месте. В погоне за реализацией этого блефа советская высшая школа десятилетиями пыталась максимально приблизиться к производству и, как кошка, гоняющаяся за своим хвостом, в итоге впустую крутилась на месте.

В результате обе стороны — и вуз и производство — остаются недовольными друг другом. Производственники продолжают переучивать и доучивать выпускников вузов, а вузы упрекают промышленность в косности и невнимании к молодым кадрам. Возможности вузов по-прежнему ограничены: слабая материальная база. А заводы не заинтересованы принимать студентов на практику — своим работникам делать нечего.

В последнее время кое-что пытаются исправить. Но чисто декоративными методами, например, переименовывая институты в академии и университеты, техникумы — в колледжи, школы — в лицеи и гимназии, механически копирут западную 2- или 3-ступенчатую систему подготовки, заимствуя из нее в основном только звания бакалавра и магистра и мало меняя содержание инженерной подготовки.

Но дело-то в другом. Такой гибкий и сложный, буквально живой организм, каким является производство, нельзя изучить, прочувствовать, находясь вне его. Все макеты, модели, схемы, блестящие лекции и пр. никогда не заменят непосредственное ежедневное, многомесячное общение с реальностями заводской жизни или конструкторского бюро. Даже производственная практика, которая, казалось бы, позволяет напрямую узнать производство, и близко не подводит к решению этой задачи, хотя времени на нее тратится очень много (15—20 % учебного времени). Недаром в технических вузах США производственная практика, как правило, отсутствует. По этой же причине сведены к минимуму или даже полностью отсутствуют дисциплины специализации, призванные обеспечить глубину профессиональной подготовки за счет детализации знаний в чрезвычайно узкой области. Не предусмотрен даже дипломный проект, который, кстати, в наших вузах поражает вопиющим дилетантством и кричащей незавершенностью. Времени же он отнимает не менее 10 % к продолжительности всего срока обучения.

Из сказанного напрашивается вывод о целесообразности переноса специальной подготовки инженера из вуза на производство.

Для этого на крупных предприятиях должны быть созданы мощные учебные центры, в которых на протяжении 1,5—2 лет может быть завершено формирование инженера для определенного вида производственной деятельности: технологической, конструкторской, по обслуживанию и ремонту оборудования и т.д., то есть для конкретного рабочего места. Будучи размещенными в самой гуще заводской жизни, связанными с его структурами, укомплектованными высококвалифицированными преподавателями — знатоками всех тонкостей производственного процесса и технических традиций фирмы, такие центры способны дать предприятию нужные кадры. Однако для этого необходимо получить из вузов выпускников с хорошей теоретической подготовкой, на базе которой они смогут освоить программу учебного центра для последующей творческой инженерной деятельности. Именно эта задача, которую вузы умеют и должны решать, может быть перед ними поставлена. В этом случае мы получим учебное заведение, соответствующее примерно первому уровню профессиональной подготовки в вузах США (четыре года обучения — инженер-бакалавр). Как профилирующие, так и общетехнические курсы в техническом вузе такого типа, подобного университетскому, должны приобрести более академические черты, то есть стать сугубо научными дисциплинами, свободными от сведений прикладного, а тем более справочного характера.

Нужно отметить, что производство преуспело в подготовке кадров для своих нужд. Известные ПТУ при заводах, предназначенные для подготовки рабочих специальностей, во многих случаях успешно решали эту задачу: их учащиеся незаметно и безболезненно переходили в ряды квалифицированных рабочих, не создавая для производства проблем адаптации свежих кадров к новым условиям работы. Аналогично этому крупнейшие промышленные предприятия в состоянии организовать учебные центры по завершению инженерного образования не только для своих нужд, но и по договорам с другими, более мелкими предприятиями и фирмами. Нечто похожее мы наблюдаем в Японии, где крупные фирмы имеют свои учебные центры, ведущие подготовку выпускников университетов для работы на конкретном месте с учетом специфики сложившихся у них технических традиций и производственных отношений. Там фирмы благодарят университеты не за хорошую практическую подготовку выпускников, а за хорошую полученную ими теоретическую базу для последующего успешного завершения инженерного образования.

Для того, чтобы получить право самостоятельной творческой инженерной деятельности, специалист должен иметь диплом об окончании технического университета и сертификат учебного центра соответствующего производства, признающий его инженером.

Трезвый, взвешенный подход к этому вопросу, подкрепленный опытом вузов других стран, а также некоторых передовых учебных заведений стран СНГ, позволяет сделать вывод, что в условиях рыночных отношений предлагаемая радикальная реформа системы подготовки инженерных кадров может оказаться единственным и естественным выходом из кризисного состояния высшей технической школы.

